**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 22 (738) 29 траўня 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



## Для адпачынку на вадзе ў Віцебскай вобласці вызначана 187 зон

**На летні сезон 2014 года на тэрыторыі Віцебскай вобласці вызначана 187 зон масавага адпачынку насельніцтва на водных аб'ектах. Цяпер завяршаецца іх падрыхтоўка.**

Для папярэджання забруджвання і засмечвання вод, месцы найбольш наведвальныя насельніцтвам, уладкоўваюцца пад'язнымі дарогамі, стаянкамі аўтатранспарту, там усталёўваюцца кантэйнеры і урны для збору цвёрдых адыходаў, арганізоўваюцца працы па іх сістэматычным вывазе, а таксама ўсталёўваюцца грамадскія туалеты.

Ужо цяпер уладкаваны 123 аўтастаянкі, уладкована 132 грамадскіх туалеты, усталяваны 151 інфармацыйны знак, 245 кантэйнераў і урнаў для збору адыходаў. У будучых месцах для адпачынку ліквідавана 70 звалак, паведамляе сайт Віцебскага абласнога камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.

Выкананне прыродаахоўнага заканадаўства ў месцах масавага адпачынку людзей ля вады будзе кантралявацца як абласным камітэтам, так і гарадскімі і раённымі інспекцыямі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, падраздзяленнямі абласнога цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя, а таксама іншымі зацікаўленымі службамі.

За забруджванне і засмечванне рэк, азёр, а таксама іх берагоў Кодэксам Рэспублікі Беларусь пра адміністрацыйныя правапарушэнні ўсталяваны штрафы ў памеры ад 3 000 000 да 45 000 000 рублёў.

***ННВ.***



## Внимание! С 29 мая по 1 июня 2014 года в г. Глубокое (район МКК) выступает цирк шапито «Овация»

**В программе: известные цирковые артисты из России, Украины, Беларуси, и … самый весёлый и смешной клоун.**

Продолжительность выступления: 2 часа 20 минут с антрактом.

Кроме этого, вы можете полакомиться поп-корном, сладкой ватой, приобрести детские игрушки и сувениры.

Детям до 5 лет в сопровождении взрослых – вход бесплатный.

На первое представление при покупке двух билетов – третий в подарок.

Билеты можно приобрести в кассе цирка предварительно с 26 мая (р-н МКК).

***Принимаются заявки по безналичному расчёту.***

**Телефоны для справок: 8-029-624-14-47 (Velcom); 8-033-669-77-99 (МТС).**

**Спешите подарить детям праздник!**
**Ждём Вас!**

УНП 690713537, ООО "Воядж-Холпи".

**Гарадоцкі раён**

# У новым фармаце

■ Станіслаў Раманчук

**Незайздросныя справы ў айчынным АПК і праблемы з дзяржбюджэтам вымусілі ўлады карэнным чынам змяніць фармат правядзення рэспубліканскіх “Дажынак”.**

Праўда, у сталіцы заключнага фестывалю-ярмаркі працаўнікоў вёскі - Гарадку спадзяваліся, што гэта свята ў іх адбудзецца ў апошні раз. Аднак, пабываўшы днямі ў райцэнтры, старшыня камітэта Дзяржкантролю Беларусі Аляксандр Якабсон засмуціў мясцовых жыхароў. Адзін з самых уплывовых дзяржслужачых на сустрэчы з калектывам мясцовай птушкафабрыкі прама заявіў, што ранейшых “Дажынак” у краіне ўжо не будзе, а сустрэчы перадавікоў жніва, праўда, будуць праводзіцца ў кожнай вобласці штогод. А вось у беларускай сталіцы не толькі лепшыя беларускія камбайнеры, але і жывёлаводы збяруцца зімой і там будуць заахвочаны лепшыя аграрыі. Праўда, галоўны айчынны кантралёр выказаў упэўненасць, што Гарадок парыгажэе і здолее добра падрыхтавацца да хлебаробскага свята абласнога ўзроўню. Зараз горад, сапраўды, нагадвае вялізную будаўнічую пляцоўку: вядуцца рамонтныя і рэстаўрацыйныя работы адразу на 112 аб’ектах. Асабліва жыхары цэнтральнай часткі горада спадзяюцца, што будуць капітальна адрамантаваны іх 24 жылыя шматкватэрныя дамы. У сувязі са зьмяненнем фармату “Дажынак” аднак ужо сур’ёзна зменшыўся іх бюджэт. Яшчэ зімой спадзяваліся, што на свята ў Гарадку з розных крыніц фінансавання пойдзе каля 2 трлн. рублёў, але цяпер гэта лічба зменшылася ў 3 разы. Ды і зараз ранейшую выдзеленую суму з дзяржбюджэту ў Мінску думаюць амаль на палову скараціць, што не дазволіць давесці да канца ўсё намечанае ў гэтым райцэнтры.

**Глыбоцкі раён**

# Дарога памылак не даруе

■ Чэслаў Якубовіч

**Сапраўдныя франтавыя зводкі нагадвае апошнім часам статыстыка розных ДТЗ на беларускіх дарогах, асабліва на выхадных.**

Вось і ў Глыбоцкім раёне пасярод майскай ночы зафіксавалі такое здарэнне паблізу вёскі Абруб-Беразвецкі. Там уначы пасля апоўначы малады вадзіцель на іншамарцы “Опель”, верагодна, разагнаўся так, што не справіўся з кіраваннем аўто. У выніку машына зляцела ў ковет на ходу руху і перавярнулася. 20-гадовы кіроўца пацярпеў меней, а вось ягоны пасажыр на 3 гады маладзей атрымаў сур’ёзныя траўмы. Яго прыйшлося змясціць у бальніцу і, як ні стараліся ўрачы, але выратаваць маладое жыццё не ўдалося. Праз восем дзён пасля начнога здарэння школьнік памёр. Па злому збегу абставін у той самы дзень аварыі толькі пасярод сонечнага дня ў суседнім Докшыцкім раёне зафіксавалі яшчэ адно неверагоднае здарэнне. Там у вёсцы Атрахімаўка не справіўся з кіраваннем таксама іншамаркі “Рэно Меган” ужо 56-гадовы вадзіцель. Ён на хуткасці ўрэзаўся ў пустуючы нежылы сялянскі дом і нават крыху хату разрушыў. Удар быў такой сілы, што кіроўца быў заблакіраваны ў моцна пашкоджанай легкавушцы і самастойна не мог выбрацца з металічнай пасткі. Спатрэбілася дапамога выратавальнікаў райаддзела МНС і спецыяльнае абсталяванне для рэзкі металу.

Пацярпелы быў дэблакіраваны, яго аўтамабіль пойдзе на запчасткі, аднак чалавек са шматлікімі траўмамі пасля курсу лячэння будзе жыць. Летась у абласным цэнтры перад навагоднімі святамі п’яны нягоднік за рулём збіў насмерць на трамвайным прыпынку 8-гадовага хлопчыка і ўцёк.

Забойцу, 34-гадовага мужчыну з Лёзненскага раёна знайшлі і ўжо асудзілі на 7 гадоў турмы, пазбавілі правоў і пакаралі яшчэ 200 млн. рублёў кампенсацыі пакут бацькоў загінулага дзіця.

**Пастаўскі раён**

# Зноў сярод лепшых

■ Кастусь Александровіч

**Няшмат у нашай краіне малых гарадоў у глыбінцы, дзе б на высокім узроўні развівалі спорт і мелі свае каманды.**

На фоне астатніх райцэнтраў яўна выдзяляюцца Паставы, дзе запрацавала свая футбольная акадэмія, а днямі на ўтульным стадыёне ПМЦ прайшоў чарговы рэспубліканскі дзіцячы футбольны фестываль. Ва ўсіх чэмпіянатах Беларусі па валейболе ў першай лізе ўдзельнічае мясцовая каманда “Атлант-Д”, якая ўжо ў сезоне 1993/1994 гадоў упершыню заваявала бронзавыя медалі. З той пары пастаўчане яшчэ восем разоў траплялі ў лік прызёраў, а чатыры апошнія сезоны сталі самымі паспяховымі ў гісторыі клуба. Феерычны іх узлёт пачаўся летам 2011 года, калі падчас XIV Міжнароднага фестывалю “Звіняць цымбалы і гармонік” у прысутнасці тысяч людзей уручылі камандзе зноў сярэбраныя медалі і дыпломы. Пасля гэтага “Атлант-Д” двойчы запар датэрмінова станавіўся чэмпіёнам Беларусі, усе іграки сталі кандыдатамі і майстрамі спорту. У гэтым годзе пастаўчан толькі ў заключным матчы апярэдзілі на 1 ачко дублёры мацнейшага клуба краіны, мінскага “Будаўніка”. Таму сёлета прыемная цырымонія ўшанавання трохразовых сярэбраных прызёраў нацыянальнага першынства пастаўскіх валейбалістаў прайшла ў райцэнтры падчас пераходнага турніру чатырох за права гуляць у эліце. Аднак першымі тут уручылі бронзавыя медалі камандзе аршанскага “Узлёта”. Пад апладысменты гледачоў затым глава абласнога спорту Васіль Захарэвіч і старшыня райсавета дэпутатаў Віктар Арэхаў уручылі 15 камплектаў медалёў, дыпломаў федэрацыі і грашовых прэмій ігракам каманды пастаўчан і яе трэнерскаму штабу.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 29.05.14 | | | | Пятніца 30.05.14 | | | | Субота 31.05.14 | | | | Нядзеля 01.06.14 | | | | Пн.02.06.14 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 02 | 08 | 14 | 20 | 02 | 08 | 14 | 20 | 02 | 08 | 14 | 20 | 02 | 08 | 14 | 20 | 02 | 08 | 14 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +12 | +11 | +14 | +14 | +10 | +11 | +15 | +14 | +11 | +13 | +16 | +14 | +12 | +13 | +14 | +15 | +14 | +15 | +17 |
| Ціск | 747 | 748 | 749 | 750 | 751 | 752 | 752 | 753 | 753 | 753 | 753 | 753 | 751 | 750 | 749 | 748 | 747 | 749 | 751 |
| Вільготнасць | 87 | 79 | 59 | 63 | 86 | 79 | 63 | 61 | 85 | 79 | 59 | 68 | 90 | 91 | 86 | 78 | 91 | 91 | 80 |
| Вецер м/сек | 6 С | 6 С | 4 С | 3 С-З | 4 С-З | 4 С-З | 4 З | 3 С-З | 2 С-З | 3 С-З | 1 С | 2 С | 4 С | 6 С | 6 С | 7 С-З | 6 С-З | 4 З | 3 З |

# Аб самым надзённым

## ВЁСКУ ЧАКАЮЦЬ РЭФОРМЫ І ЯШЧЭ БОЛЬШ ЖОРСТКІЯ МЕРЫ ПАКАРАННЯ ЗА БЕЗГАСПАДАРЧАСЦЬ



■ Аляксандр Цішкевіч

**Дарэчы, Прыдзвінскі рэгіён выклікае асаблівую трывогу ва ўрадзе Беларусі, паколькі страты мясцовых гаспадарак ад бягучай дзейнасці толькі летась дасягнулі астранамічнай лічбы - больш 45 млрд. рублёў. І таму ўжо нельга здзіўляцца, што ў мінулым годзе асноўныя прадукты харчавання для беларусаў падаражэлі яшчэ на 16 %.**

Спецыялістам сельскай гаспадаркі не прывыкаць да рэгулярных выклікаў у раён, а то і ў вобласць, калі нешта не ладзіцца на палях, альбо на фермах. Аднак у сярэдзіне мая многія старшыні калгасаў і кіраўнікі “вертыкалі” выязджалі на падобныя нарады з пэўнай трывогай, калі ў розных кутках Беларусі праходзілі выязныя пасяджэнні міжведамаснай рабочай групы для вырашэння праблем айчыннага АПК. У прыватнасці, у нашай Віцебскай вобласці, адной з самых адстаючых, такія нарады прайшлі нядаўна ў Полацку, а затым у Талачыне.

Дарэчы, Прыдзвінскі рэгіён выклікае асаблівую трывогу ва ўрадзе Беларусі, паколькі страты мясцовых гаспадарак ад бягучай дзейнасці толькі летась дасягнулі астранамічнай лічбы - больш 45 млрд. рублёў. І таму ўжо нельга здзіўляцца, што ў мінулым годзе асноўныя прадукты харчавання для беларусаў падаражэлі яшчэ на 16 %. Падобнага няма нідзе болей у свеце. Сёлета раптам не стала хапаць мясапрадуктаў і асабліва свініны, калі спынілі яе закупкі ў Еўропе. Сказаўся і фактар зніжэння пагалоўя свіней і масавыя іх забоі на панадворках насельніцтва вакол свінакомплексаў з-за ўзнікшых ачагоў афрыканскай чумы.

Між тым ніводнай галіне айчыннай эканомікі не аказвалася раней і не аказваецца штогод такой сур’ёзнай дзяржпадтрымкі, як нашай калгаснай вёсцы. Дастаткова нагадаць, што за апошнія дзве пяцігодкі ў гэты сектар дзяржава ўклала практычна 50 млрд. долараў. А вось аддачы ад велізарных інвестыцый чамусьці няма. Горш таго, як адзначаў у тым жа Полацку віцэ-прэм’ер урада па АПК Міхаіл Русы, страты ад масавай безгаспадарчасці ў вобласці дасягнулі 2,4 трлн. рублёў. Сярэдняя рэнтабельнасць віцебскіх гаспадарак мінус 0,2 %. Сітуацыя ў цэлым па краіне таксама незайздросная, бо вытворчасць малака і мяса, зерня, лёну не расце, летась надабор прадукцыі вёскі дасягнуў 819 млрд. рублёў.

У аднолькавых умовах дзейнасці адны могуць мець ураджайнасць 30-40 цэнтнераў з гектара і ў тым жа раёне адстаючыя ў 2-3 разы меней. Паказчыкі надояў яшчэ болей адрозніваюцца, а як можа далей існаваць з гадавым надоем малака на карову пад 1500 кг, да прыкладу, калгас “Блакітныя азёры”, што на Пастаўшчыне? На нарадах сядзелі ўпраўленцы з панурымі галовамі, бо прывodзіліся шакіруючыя лічбы. У Прыдзвінне дзяржава за 10 гадоў уклала сродкі на набыццё амаль 14 тысяч адзінак рознай тэхнікі, дапамагла правесці ў вобласці рэканструкцыю 375 ферм, за 5 апошніх гадоў затрацiла на АПК 13 трлн. рублёў, а большасць мясцовых гаспадарак фінансава цяжка “хворыя”.

У выніку, на Віцебшчыне вырашана рэзаць па жывым, правесці рэарганізацыю, продаж і нават прызнанне банкрутамі амаль 100 гаротных калгасаў, якіх застанецца 170. Дарэчы, завяршальная такая нарада па праблемах АПК рыхтавалася ў беларускай сталіцы, якая канчаткова вызначыць галоўныя накірункі аграрнай палітыкі да 2020 года. У бліжэйшы час, відавочна, будуць закручаны болей гайкі нават да ўвядзення крымінальнай адказнасці правінілыхся кадраў ад старшыні да механізатара.

Абяцаюць, што нельга будзе пры звальненні з работы перабегчы працаваць у іншую гаспадарку. Акрамя гэтага зьмяняецца механізм набыцця прадукцыі па дзяржзаказу, які будзе вызначацца штогод да 1 красавіка. Выходзячы з яго аб’ёмаў, гаспадаркі будуць атрымоўваць авансы пад будучую прадукцыю. Урад Беларусі зоймецца падтрымкай дзейнасці толькі 4 ВНУ і 26 каледжаў АПК, выдзеліць грошы на правядзенне меліярацыі і вапнаванне зямель. Астатнія сродкі стануць накіроўваць вёсцы ў пераразліку на 1 кг рэалізаванай прадукцыі з гектара.

Таксама прапанаваны новыя схемы крэдытавання гаспадарак са зніжэннем працэнтнай стаўкі. А вось спісання даўгоў не чакаецца, хоць і намячаюцца меры па ліквідацыі праблемных запазычанасцей. Пакуль жа ў нас на Віцебшчыне ды і на Гомельшчыне гадавая выручка калгасаў меншая за іх ранейшыя даўгі, квітнеюць прыпіскі. Сумна, але на разліковых рахунках многіх гаспадарак краю гуляе вецер, няма грошай на далейшае развіццё і выплату прымальных заробкаў.

Трэба зазначыць, што шмат дзе на вёсцы актуальным застаецца кадравае пытанне, пераводзяцца людзі, улюбёныя ў працу на зямлі. А галоўная праблема АПК, як падаецца, у тым, што на зямлі няма сапраўднага гаспадара. Спажыўцам жа абяцаюць нават з наступнага 2015 года пераход на рынкавыя і нават свабодныя цэны на сельгаспрадукцыю па-за дзяржзаказ з кампенсацыяй страт бедным слаям насельніцтва. Аднак абяцанкамі сыты не будзеш, тым больш, што беларускія фінансы “спяваюць рамансы” і балансуюць на мяжы магічнай дэвальвацыі.

## Дзень за днём

**Дзяржава знайшла ўсё ж сродкі для будаўніцтва сёлета новай кальцавой дарогі вакол сталіцы. Сусветная арганізацыя аховы здароўя паведаміла, што Беларусь выйшла на першае месца ў свеце па спажыванні алкаголю (17, 5 літраў спірту на чалавека за год). Знакавай і гістарычнай падзеяй для краіны стала правядзенне чэмпіянату свету па хакеі 2014 года ў Мінску. Першы інтэрнэт-магазін "Еўраопта" пачаў дастаўляць дамоў прадукты мінчанам са зніжкай 5 %. Разам з Малдовай і Ліхтэнштэйнам Беларусь увайшла ў тройку дзяржаў Еўропы, куды найменей едуць турысты.**

# Важнейшыя навіны свету

**Польшча.** Глава МЗС краіны Радаслаў Сікорскі заявіў, што бязвізавы рэжым Украіны з Еўрасаюзам магчымы з сярэдзіны 2015 года, калі ўкраінцы прымуць патрэбныя законы.

**Украіна.** Генпракуратура краіны прызнала самаабвешчаныя Данецкую і Луганскую "народныя рэспублікі" тэрарыстычнымі арганізацыямі, так лічыць і даклад ААН.

**Літва.** Кампанія Lietuvos dujos правяла паспяховыя перамовы з "Газпрамам" і дабілася зніжэння з ліпеня зніжак цэн болей чым на 20 % на пастаўкі расійскага газу ў краіну.

**Украіна.** Бандыты ў масках і з аўтаматамі "апалчэнцаў народнай рэспублікі" ў Данецкай, Луганскай абласцях разграбілі аўтасалоны, сталі рабаваць банкі, офісныя цэнтры, крамы.

**Індыя.** Правячая доўга партыя Індыйскі нацыянальны кангрэс пацярпела паражэнне на парламенцкіх выбарах і пераходзіць у апазіцыю пераможцам "Бхараці Джаната Парці".

**ЗША.** Прэзідэнт Барак Абама адкрыў у Нью-Йорку падземны мемарыяльны музей шматлікім ахвярам тэракту 11 верасня 2001 года на месцы гібелі двух хмарачосаў.

**Судан.** Ісламісцкі суд краіны прыгаварыў да павешвання 27-гадовую жанчыну на 8-м месяцы цяжарнасці за тое, што яна выйшла замуж за мужчыну-хрысціяніна.

**Расія.** Публіцыст В. Навадворская нагадала сепаратыстам усходу Украіны, што яны не толькі "ідыёты, але і барахло, якое Пуцін падбіраць не будзе", бо РФ – далёка не рай.

**Украіна.** Самаабвешчаны ўрад Крыма забараніў крымскім татарам акцыі да Дня памяці ахвяр масавых дэпартацый, татар усяляк прыцicкаюць за іх праўкраінскую пазіцыю.

**Турцыя.** У краіне абвясцілі 3-дзённую жалобу пасля аварыі на шахце ля горада Сома, дзе загінула каля 300 чалавек і сотні людзей былі заблакіраваны глыбока пад зямлёй.

**Францыя.** Савет Еўропы зноў заклікаў Беларусь увесці мараторый на смяротную кару, а Еўрасаюз – неадкладна спыніць адвольныя затрыманні грамадскіх актывістаў.

**Расія.** Адыёзны прэстарэлы лідар партыі ЛДПР У. Жырыноўскі ў Смаленску прапанаваў павярнуць русла ракі Днепр у Дон альбо Дзясну, каб абязводзіць Украіну, ён цячэ і ў нас.

**Харватыя.** Урад краіны і суседніх Босніі і Сербіі абвясцілі ў многіх раёнах надзвычайнае становішча з-за моцных лівеняў, якія выклікалі найбольшую паводку за апошнія 120 гадоў.

**Швейцарыя.** На чарговым рэферэндуме швейцарцы прагаласавалі супраць устанаўлення самай высокай у свеце мінімальнай зарплаты (4470 $ у месяц), бо інакш рост беспрацоўя.

**Расія.** Навейшая расійская ракет "Пратон-М" з дарагім спадарожнікам сувязі пацярпела катастрофу праз 10 хвілін палёту з касмадрома Байканур, страты перавысілі 1 мільярд рублёў.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Астравец.** З другой спробы Беларусь падпісала з Расіяй новы крэдытны дагавор на суму 500 мільёнаў долараў для прадаўжэння работ па ўзвядзенні Беларускай АЭС.

**Мінск.** Толькі з-за неэфектыўнага АПК і лабістаў-аграрыяў, як заявіў вядомы эканаміст Л. Заіка, цэны на мяса маглі вырасці на 70 % і такія дарагія ў Беларусі прадукты харчавання.

**Барысаў.** На заводзе "Белджы" да канца года плануюць выпусціць 18 тысяч кітайскіх аўто Geely і 11 тысяч з іх прадаць у Расіі, але па папулярнасці яны толькі на 27-м месцы ў расіян.

**Гродна.** ААТ "Гроднажылбуд" падпісала кантракт з групай кампаній "Рэмікс" на пабудову яшчэ 4-х шматпавярховых жылых дамоў па 180 кватэр у Маскоўскай вобласці.

**Мінск.** Банкаўская сістэма краіны за год змагла зарабіць амаль 1 мільярд долараў прыбытку, самым прыбытковым, як і ў 2012 годзе, стаў Банк развіцця з прыбыткам 1,58 трыльёна рублёў.

**Брэст.** На мясцовым пункце пропуску ў Польшчу "Казловічы-2" стварылі электронную сістэму браніравання чаргі на ўезд для грузавікоў, яна пачне дзейнічаць з 2015 года.

**Вілейка.** Да канца лета дырэкцыя завода "Зеніт-БелОМА" перавяла сваіх работнікаў на 4-дзёнку без аплаты дадатковага выхаднога дня з-за скарачэння аб'ёмаў вытворчасці.

**Жодзіна.** Чарговую крэдытную лінію на 75 мільёнаў долараў выдзеліў БелАЗу еўрапейскі банк ЕАБР на закуп камплектуючых і матэрыялаў для вытворчасці самазвалаў і іншай тэхнікі.

**Магілёў.** Да суда міліцыя змясціла пад падпіску аб нявыездзе вучня 11-га класа адной з школ горада, які купіў у Мінску ля казіно наркотыкі без мэты збыту псіхатропа.

**Салігорск.** Міліцыя выявіла і затрымала 20-гадовага хлопца, які стварыў у горадзе разгалінаваную сетку па распаўсюджванні сяроод моладзі лёгкіх наркотыкаў спайсу.

**Ліда.** Невядомыя аферысты падманулі па тэлефоне 75-гадовую пенсіянерку на 3 тысячы еўра, яна паверыла махлярам, што нібыта яе блізкі сваяк здзейсніў сур'ёзнае дарожна-транспартнае здарэнне.

**Брэст.** Следчы камітэт пачаў праверку інцыдэнту, калі вечарам жыхары вёскі Страдзеч аказалі супраціўленне міліцыі і не далі ДАІ канфіскаваць самаробны трактар.

**Мінск.** Адразу трох расійскіх балельшчыкаў аштрафавалі за крадзяжы сувеніраў на "Чыжоўка-Арэна", папаліся на такіх крадзяжах і 3 беларусы з Мінска, Пінска, Гомеля.

**Баранавічы.** Суддзя гарсуда С. Півавар прыняў рашэнне знішчыць украінскі сцяг, які канфіскавалі ў мясцовага жыхара на пікеце з плакатам супраць палітыкі РФ да Украіны.

**Гродна.** Кінатэатр "Кастрычнік" і маладзёжны цэнтр "Гродна" арганізавалі паказ на вялікіх экранах прамыя трансляцыі матчаў хакейнага ЧС-2014 у Мінску за 10 тысяч рублёў.

## Індывідуальным прадпрымальнікам дазволілі наймаць не толькі сваякоў



■ БЕЛТА

**Індывідуальным прадпрымальнікам дазволілі прыцягваць да прадпрымальніцкай дзейнасці не больш за тры наёмныя асобы незалежна ад родных сувязяў.**

Новаўвядзенні прадугледжаны ўказам кіраўніка дзяржавы № 222 « Аб рэгуляванні прадпрымальніцкай дзейнасці і рэалізацыі тавараў індывідуальнымі прадпрымальнікамі і іншымі фізічнымі асобамі», які апублікаваны на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале. Асноўныя нормы дакумента ўступаюць у сілу пасля яго афіцыйнага апублікавання.

Таксама здымаюцца абмежаванні па колькасці гандлёвых, якія абслугоўваюць і іншых аб'ектаў, якія выкарыстоўваюцца індывідуальнымі прадпрымальнікамі ў сваёй дзейнасці.

Акрамя таго, ва ўказе прапісана, што для індывідуальных прадпрымальнікаў-плацельшчыкаў адзінага падатку да 1 сакавіка 2015 г устаноўлены пераходны перыяд, на працягу якога ім прадастаўлена права рэалізаваць рэшткі тавараў, увезеных у Беларусь з тэрыторыі краін Мытнага саюза да 1 ліпеня 2014 гады без суправаджальных дакументаў, якія пацвярджаюць іх набыццё.

Згодна з дакументам, ІП не пазней за 30 ліпеня бягучага года абавязаны прадставіць у падатковы орган па месцы пастаноўкі на ўлік вопіс рэштках тавараў у двух экзэмплярах для іх запэўнівання. Падатковы орган не пазней двух працоўных дзён пасля атрымання вопісу прастаўляе на кожнай яе старонцы адзнаку падатковага органа і вяртае індывідуальнаму прадпрымальніку адзін асобнік.

Вопіс рэштках тавараў з адзнакай падатковага органа павінен знаходзіцца ў тым гандлёвым аб'екце грамадскага харчавання, гандлёвым месцы на рынку, месцы захоўвання рэштках тавараў, па якіх ён складзены, да заканчэння рэалізацыі рэштках тавараў, да адпачынку гэтых тавараў з месцаў захоўвання ў месцы рэалізацыі.

Дакументам таксама прадугледжана, што індывідуальныя прадпрымальнікі, якія маюць дакументы на ўсе тавары, якія імі рэалізуюцца, будуць мець права перайсці на спрошчаную сістэму падаткаабкладання альбо з 1 ліпеня, альбо з 1 кастрычніка гэтага года. Для гэтага ІП адпаведна не пазней за 31 ліпеня або 31 кастрычніка гэтага года павінны прадставіць у падатковы орган па месцы пастаноўкі на ўлік апавяшчэнне аб пераходзе на спрошчаную сістэму падаткаабкладання па форме, устаноўленай Міністэрствам па падатках і зборах.

Ва ўказе прыводзіцца пералік тавараў, рэалізацыя якіх дазволена фізічнымі асобамі, якія не маюць дакументаў, якія пацвярджаюць іх набыццё. Гэта, у прыватнасці, створаныя гэтымі асобамі творы жывапісу, графікі, скульптуры, прадметы народных промыслаў, прадукцыя рамеснай дзейнасці; прадукцыя кветкаводства, дэкаратыўных раслін, іх насення і расады, жывёл; нехарчовыя тавары, якія былі ва ўжытку ў гэтых фізічных асоб і ( або) членаў іх сям'і; лекавыя расліны ягады, грыбы, арэхі, іншая дзікарослая прадукцыя і г.д.

За рэалізацыю тавараў, не ўказаных у гэтым пераліку, для фізічных асоб прадугледжана адміністрацыйная адказнасць.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Урад Беларусі павялічыў долю дзяржавы ў ААТ "Віцебскдрэў" на 523 тысячы акцый на велічыню дзяржпадтрымкі з бюджэту, выдзеленай калектыву ў мінулым годзе.

**Полацк.** На выязным пасяджэнні рабочай групы па праблемах АПК з удзелам віцэ-прэм'ера М. Русага ў вобласці вырашылі ліквідаваць 96 гаспадарак-банкротаў з 266.

**Гарадок.** Старшыня Дзяржкантролю РБ А. Якабсон правеў інспекцыю аб'ектаў райцэнтра да "Дажынак" і заявіў аб змене іх фармату, фестывалі стануць праводзіць па абласцях.

**Віцебск.** Міліцыя затрымала групу з трох маладых рускіх злачынцаў з Казані, Варонежа, Вялікіх Лук, якія падраблялі банкаўскія карткі і кралі грошы з картрахункаў беларусаў.

**Руба**. Для правядзення работ па будаўніцтву Віцебскай ГЭС перакрылі поўнасцю асноўнае русла Заходняй Дзвіны і пабудавалі тут неабходны абводны канал.

**Верхнядзвінск.** На карысць дзяржавы накіраваў суд кантрабандны абутак на суму звыш 28 мільярдаў рублёў, выяўлены мытнікамі падчас праверак на пункце пропуску "Бігосава-1".

**Гарадок.** У сталіцы прадстаячых "Дажынак" увялі забарону на кругласутачны гандаль гарэлкай, у 1-м квартале памерлі з-за п'янства яшчэ 27 чалавек працаздольнага ўзросту.

**Расоны.** Урач-тэрапеўт раённай бальніцы і краязнаўца Андрэй Пуртаў правеў у абласной бальніцы прэзентацыю сваёй кнігі "Яны змагаліся са смерцю" пра калег у гады вайны.

**Віцебск.** Упершыню вясной на зборны пункт абласнога ваенкамата прыбылі звыш 100 хлопцаў для прахаджэння воінскай службы ў рэзерве, усяго ў армію пайшлі 1300 юнакоў вобласці.

**Глыбокае.** На базе вопытнага лясгаса прайшлі трэніровачныя зборы членаў зборнай Беларусі, яны восенню ў Швейцарыі выступяць на сусветным першынстве лесарубаў.

**Полацк.** На ферме з робатамі "Заскоркі" пачалі развядзенне кароў пароды галштын, іх стала ўжо 12, лепшая з рагуль па мянушцы Тропа дала летась 11,5 тысяч літраў малака.

**Мёры.** Выязная калегія аблкамітэта прыродных рэсурсаў адзначыла рост на Віцебшчыне папуляцыі дзікіх жывёл – ласёў, аленяў, касуль, рысі, толькі барсукоў стала меней у лясах.

**Орша.** Намеснік пасла Германіі ў РБ Р. Харпіенс уручыў 42 сертыфікаты лепшым вучням СШ №20 за выдатнае веданне нямецкай мовы ў рамках міжнароднага праекта.

**Віцебск.** Гандлёвая сетка "Родная сторона" адкрыла ў горадзе свой 9-ты па ліку супермаркет гандлёвай плошчай 800 квадратных метраў з фірменным "Цэнтрам свежасці" гароднiны.

**Паставы.** Падчас пераходнага турніру валейбалістам мясцовага "Атлант-Д" уручылі сярэбраныя медалі за 2-е месца ў чэмпіянаце РБ у 1-й лізе, "бронзу" – камандзе з Оршы.

*Служба інфармацыі "ВГ".*



*Няма ягонага жыцця?*
*Чытайце, як глядзіць з лісця,*
*З налёту птушкі ў вышыні,*
*З вады крынічнай з глыбіні.*
*Душа...*

# Віталь Гарановіч – у вершах і песнях застаўся

*Бурштынам слова свеціць*
*І, як крышталь звініць,*
*Ты лепшая у свеце,*
*Я веру: будзеш жыць!*

-Так сказаў Віталь Гарановіч пра мову родную. А ці не раней, у вершы «Мая просьба», увесь матыў скіраваны да беларусаў. І, калі цытаваць, то трэба ўвесь верш:

*Народзе, прашу: не формай салдата,*
*Не срэбрам адкупнай багатай рукі,*
*А праўдай і мужнасцю адваката*
*Мову сваю зберажы на вякі.*
*Слова Скарыны і песню Купалы,*
*Мову-салоўку, гаворку-бруя*
*Абарані ад знішчальнай навалы,*
*Ўклаўшы у слова душу сваю.*
*Змове шыпячых, глухіх, выбуховых*
*Паўнагалосся струной загучы.*
*Толькі ад гэтага наступу мовы*
*Ў дзень пададуцца ўсе крумкачы.*

Мова вывела ягоную душу на вольную волю зіхацець вобразамі ад захаплення прыродай. Найпрыгажэй гучыць паэтычны матыў, менавіта тут, дзе прастор уважліваму воку і шукальнай колераў думцы.

Няма яго для сустрэчы, каб павітацца з намі за руку, вачмі ў вачах высветліць трывогу за нашу чалавечую завісласць у матэрыяльным свеце і духоўнай беднасці. І адначасова ўзаемна падтрымаць веру ў незнікальнасць святла і ззяння роднага слова. Але ёсць жа вершы, дзе Віталь Рыгоравіч жывапісна-падрабязна, узнёсла, шырока адлюстраваў рэчаіснасць асабістым бачаннем. Гэтая назіральнасць так і сцвярджала: «Вобраз спее ў думках-мроях... То сягае у вышыні, то прастор скародзіць. І ў радок блакітна-сіні з-пад пяра пяройдзе».

Пра што яшчэ? Вось яны, вершы з зіхоткімі радкамі-параўнаннямі і метафарамі: «Кідае лівень, як арэхі, цяжкія кроплі у ваду».

У рызах слупы, як зімы святары,
Выйшлі на лета маліцца.

Зоркі, як плешкі цвікоў
У хмарах блішчаць, як у латах.

Каўнерыкі белых стрэх
Крахмаліць мароз зацята.
Стажок, як з рагожы мех,
Расшчодрыўся пахам мяты.

І «маладзік, як матылёк...» – такія вось вобразныя тонкасці. Нават «дождж прадзецца на вечным калаўроце»; «...Свідруе восенскія сцежкі джалам з лісця малады віхор», гром, «пасадзіўшы месяц на лапату, кіне ў зорнасць і пральe слязу...» і г. д.

Вучні 3-яй Глыбоцкай школы мелі ў свой час дзівосна багатага мастацкім мысленнем настаўніка роднай мовы і літаратуры, хто асабістымі вачыма падгледзеў у прыродзе мілыя падрабязнасці. Таму, што любіў. І балюча адзываецца тое, што беларуская школа, створаная некалі Гарановічам, ператварылася ў рускамоўную.

А Віталь Рыгоравіч працаваць умеў ад сумлення і захаплення. І па-гаспадарску. І пісаць умеў патрыятычна і рамантычна. Гэта і не забывалі некаторыя настаўнікі, нагадваюць вучням пра родную любоў былога дырэктара і настаўніка-паэта. Таму і адзначылі вечарынай яго памяць, у другой вясне без яго (3-га траўня). Заіскрыліся вершы на вусных вучняў. Прагучалі хвалюючa песні з грудзей юных і Ганны Шаколы – кампазітаркі і выканаўцы твораў.

*Марыя Баравік,*
*сябра СБП*

# Свята 9-га мая ў Самахвалавічах і ў маіх думках



**Марыя Баравік,**
сябра СБП,
*г.п. Падсвілле.*

## Занылa памяць

З усяго, калі-дзе ў школах глядзела прысвячэнні майскаму святу Перамогі, мяне найбольш уразіла выступленне вучняў у Самахвалавіцкай школе 7-га траўня. І не нейкім там артыстызмам, звыш арыгінальнасцю, а прастасцю, прачулым спакоем. Гэта быў кампазіцыйна-зладжаны, стройны, праніклы сцэнічны аповед пра Вялікую Айчынную. Эмацыянальны і засяроджаны.

Тыя, хто стварыў уражанне гледачам (у два этапы: для малодшых і для старэйшых сяброў) як бы перад гэтым пераджылі адкрыццё праўды і цяпер паведамілі, распавялі, якая гэта гісторыя тых страшных падзей для ўсяго жывога свету на зямлі.

Я выйшла з залы. У зялёным двары школы падумала: далёка тая вайна, але як яна незаўважна стаіць каля нас. Варта толькі адгарнуць старонку памяці. Не, памяць пра вайну ніколі не будзе страчана новымі пакаленнямі. Ёй не пагражае забыўнасць. Бо столькі сёння дакументальных сведчанняў ёсць, і мастацкіх напрацавана за гэтыя сем дзесяткаў гадоў. Вялікую справу зрабілі фотажурналісты, пісьменнікі і кінематаграфісты, пашукоўцы сапраўдных фактаў, адкрывальнікі «зацёртых» старонак ваеннай праўды



і ўсяго іншага. Безумоўна, адыгрывае ролю выдатная відэатэхнічная магчымасць, даступнасць да крыніц ваеннай гісторыі. Абы ў чалавеку загаралася цікаўнасць і дапытлівасць. Яе ж расцяць у вучнях настаўнікі.

Вось якая, напрыклад, руплівасць у Самахвалавіцкай школе. Тут заўсёды цікавая творчая праца. А сённяшняе выступленне хлопчыкаў і дзяўчынак у пілотках заслугоўвае высокай этычна-мастацкай адзнакі. Мастацкае слова, музыка, ілюстрацыя і засяроджанае, прачулае, з нейкім дарослым светапоглядам, выкананне вельмі нaструніла слых залы. Выклікала слёзы.

Збылася памяць. Асабліва яна пацвердзілася жывымі галасамі прысутных тут унукаў і праўнукаў пра сваіх дзядоў-франтавікоў (фотаздымкі прайшлі па экране).

*І я не бачыла вайны;*
*Пазнейшы час мне даў дарогу...*
*А родных успамін заныў...*
*Хоць сёння з іх няма нікога.*

Памяць будзе жыць.

## ...і наступіў сумнеў

У Дзень 9-га траўня, на плошчы, дзе адбыўся самахвалавіцкі ўрачысты мітынг, стала сумна не ад успамінаў пра вайну. Усё асучаснілася фармальнымі скок-прамовамі ў мікрафон дарослых людзей. Кіраўнік выканкама, нібы ў шпаргалку зірнуў – рапартавальна павіншаваў.

Дзеці і тут адрозніваліся выступам. Яны мелі дакладны матэрыял пра вайну (напрыклад: дзесяць забітых на адзін метр зямлі...) і відавочнае старанне ўразіць слухачоў. Яны выдзяляліся падрыхтаванасцю і засяроджанасцю на тэме вялікага Свята Перамогі ў Вялікай Айчыннай.

Падумалася: тыя, хто падрыхтаваў дзяцей, яшчэ ўнутрана чуюць натуральныя адгалоскі трагічнага часу ў сукупнасці з сёняшнім... Стараюцца сказаць пра трывогу. Ідучы ад Памяці... А што за імі?

Некалькі чалавек, як бы ветэранаў, ці ад ветэранаў, сядзелі на лаўцы насупраць выступоўцаў. І яны ўжо не мелі што сказаць, слухалі, глядзелі. Ды ўрачыстасць скончылася.

– Мітынг закрываецца! – паведаміла гучнасць мікрафона. І пачаўся гучны канцэрт сучаснай трасухі Дома культуры перад пажылымі гледачамі на лаўцы. Ніводнай песні пра вайну. Хоць бы «Кацюшу» праспявалі.

Мы сышлі з плошчы, пакінуўшы канцэрт. З намі было пытанне: "Ці атрымае будучыня натуральную памяць?».

# Не дазваляйце сябе падмануць

**А.І. Гігола,**
*начальнік ААПП Глыбоцкага РАУС, падпалкоўнік міліцыі.*

**Арганізацыя бяспекі пажылых грамадзян - адна з галоўных задач, якія стаяць перад дзяржаўнымі органамі.**

Людзі старэйшага пакалення ў сілу свайго ўзросту і стану здароўя могуць стаць больш даступным аб'ектам учынення злачынстваў. Любая супольнасць павінна паважліва ставіцца да старых, якія вырасцілі, выхавалі, абаранялі сваіх дзяцей, перадаюць ім свой жыццёвы вопыт. Таму бяспека пажылых людзей надаецца асаблівая ўвага.

У апошні час у краіне пачасціліся выпадкі ўчынення кражжою і ашуканскіх дзеянняў у дачыненні да пажылых грамадзян. Як правіла, злачынцы пад падставай продажу (куплі) розных тавараў, рэчаў і прадуктаў харчавання, прадстаўляючыся работнікамі службы сацыяльнай абароны насельніцтва, медыцынскімі работнікамі і іншымі асобамі, пранікаюць у жыллё адзінокіх пенсіянераў, дзе, скарыстаўшыся іх даверлівасцю, учыняюць крадзяжы грошай, залатых вырабаў і іншых дробнагабарытных каштоўных рэчаў.

Дадзеныя злачынствы выклікаюць складанасць у іх раскрыцці, бо з-за паважнага ўзросту многія пацярпелыя не могуць дэталёва апісаць знешнасць злачынцаў, скласці іх суб'ектыўны партрэт альбо апазнаць па наяўных уліках. За 2014 год у дачыненні да састарэлых грамадзян (ва ўзросце больш за 60 гадоў) у горадзе Глыбокае і раёне ўчынена 16 злачынстваў, з іх 15 – гэта крадзяжы.

У мэтах прафілактыкі злачынстваў, якія ўчыняюцца ў дачыненні да асоб пенсійнага ўзросту, рэкамендуецца:

■ не захоўваць грашовыя сродкі ў шафах з бялізнай у пакоях кватэры (дома), выключыць магчымасць выяўлення грошай староннімі асобамі пры беглым аглядзе кватэры; па магчымасці захоўваць буйныя сумы грошай у банках;

■ не адчыняць дзверы ў кватэру (дом) незнаёмым, у тым ліку тым, што прадстаўляюцца супрацоўнікамі розных сацыяльных (камунальных) службаў. У любым выпадку не трэба саромецца папрасіць у наведвальнікаў прад'явіць дакументы. Больш за тое, нават пасля прад'яўлення дакументаў, не спяшацца адкрываць незнаёмцам дзверы. Не лішнім будзе паклікаць суседзяў, патэлефанаваць у адпаведныя ўстановы і пацікавіцца, накіроўвалі яны свайго супрацоўніка і як яго прозвішча, ці паведаміць па тэлефоне "102" аб "наведвальніках";

На тэрыторыі краіны маюць месца выпадкі падману пажылых людзей. Дні атрымання пенсіі становяцца і днямі актыўнасці махляроў.

Парады, якія дапамогуць пазбегнуць грамадзянам падобных супрацьпраўных дзеянняў:

■ у дні атрымання пенсіі наведваць паштовыя аддзяленні, Ашчадбанкі і банкаматы з сваякамі або людзьмі, якім вы давяраеце;

■ атрымаўшы пенсію, пералічваць грошы трэба незаўважна для навакольных;

■ выходзячы, звяртайце ўвагу на навакольных, якія ідуць следам; не ўступайце ў гутарку з імі;

■ не ўступайце ні ў якія здзелкі з незнаёмымі людзьмі.

# Увага! Крадзяжы з дач

**А.І. Гігола,**
*начальнік ААПП Глыбоцкага РАУС, падпалкоўнік міліцыі.*

**За бягучы перыяд у 2014 годзе на тэрыторыі Глыбоцкага раёна распачата 50 крымінальных спраў за крадзеж маёмасці, з якіх 8 злачынстваў складаюць крадзяжы з дач.**

Прадметам замаху з'яўляецца ўсё, што заўгодна, ад рондаляў, прадуктаў харчавання, адзення, ровараў, мабільных тэлефонаў, аўтамабільных магнітол да дарагой камп'ютарнай і відэатэхнікі, ювелірных вырабаў і буйных сум грашовых сродкаў.

Так, у перыяд з 17 па 20 лютага гэтага года ўчынены крадзеж з дачнага дома ў вёсцы Шуневічы падкоўдранікаў і ручнікоў;

з 29 сакавіка па 17 красавіка гэтага года ўчынены крадзеж з дачнага дома ў вёсцы Мосар 7 кг цукру і відэамагнітафона;

з 17 лістапада мінулага года па 08 сакавіка 2014-га ўчынены крадзеж з дачнага дома ў вёсцы Сахновічы, 7 вудачак, 2 рыбалоўных катушак, спінінга, 30 кг мёду.

У мэтах прафілактыкі крадзяжоў з дачных будынкаў, **міліцыя звяртаецца да грамадзян з наступнымі рэкамендацыямі:**

■ не пакідайце на дачы электрабытавыя прыборы, электраінструмент і іншую каштоўную маёмасць, вырабы з каляровага металу;

■ зрабіце ўсё магчымае для ўмацавання дзвярэй, зачыняйце вокны аканіцамі т.п., каб перашкодзіць пранікненню ўнутр будынка старонніх асоб;

■ дамаўляйцеся з суседзямі, якія пастаянна пражываюць паблізу, аб наглядзе за вашым жыллём і іншымі дачнымі будынкамі;

■ пры з'яўленні каля ўчасткаў незнаёмых падазроных асоб паведаміце пра іх вашаму ўчастковаму інспектару або ў дзяжурную частку РАУС па тэлефоне 102 для далейшай праверкі гэтых асоб.

Стаўце на варотах і ў хаце не навясныя, а ўрэзныя замкі, так як адразу становіцца зразумела, ці на месцы гаспадары. На дзверы ў дом лепш ставіць нават накладныя – каб з вуліцы да іх механізму цяжэй было дабрацца. На вокны мэтазгодна паставіць моцныя краты.

**Галоўнае, неабходна памятаць, што захаванасць вашай маёмасці залежыць непасрэдна ад вашай асабістай зацікаўленасці.**

# Прэзентацыя новых фільмаў глыбоцкіх журналістаў



**На здымку:** удзельнікі прэзентацыі глядзяць фільм пра ксяндза Мечыслава Янчышына.

**Глыбоцкія журналісты Яўген Самсонаў і Леанід Юрык знялі тры фільмы, прэзентацыя якіх адбылася 25 траўня ў Глыбокім.**

### "Божа, не дай мне лёсу без Беларусі жыць"

Фільм пад такой назвай быў прысвечаны жыхару Падсвілля Мар'яну Місевічу.

Гэты твор знаёміць гледача з былым настаўнікам Падсвільскай сярэдняй школы, сапраўдным патрыётам сваёй Бацькаўшчыны. Мар'ян Мечыслававіч даў пуцёўку ў жыццё не адной сотні сваіх вучняў, якія жывуць зараз не толькі ў Беларусі, але і далёка за яе межамі. У свой час у яго вучыўся і адзін з аўтараў гэтага фільма Яўген Самсонаў, прычым не толькі матэматыцы, але і вольнай барацьбе.

Шмат месца ў фільме прысвечана бацькоўскаму дому Мар'яна Місевіча ў Перадолах, у якім зараз месціцца своеасаблівая сядзіба-музей. Тут збіраліся беларускія барды, мастакі, у мінулым годзе прайшла імпрэза, прысечаная 125-годдзю Язэпа Драздовіча. Над сядзібай пастаянна лунае беларускі нацыянальны белчырвона-белы сцяг, над уваходам прымацаваная Пагоня. Вуліца, на якім месціцца дом, носіць імя вучня спадара Мар'яна, Аляксандра Дзехцярова, які загінуў у далёкім Афганістане.

Распавядаецца ў фільме і пра тое, як у мінулым годзе па камандзе аднаго з мясцовых начальнікаў Пагоня на балконе кватэры спадара Мар'яна ў цэнтры Падсвілля была запэцканая чырвонай фарбай. А пасля гэтага адміністрацыйная камісія глыбоцкага райвыканкама яшчэ і аштрафавала яго за нібыта псаванне знешняга выгляду будынку. Як быццам астатнія балконы выглядаюць проста ідэальна. Гэтай падзеі Мар'ян Місевіч збіраецца прысвяціць адмысловы стэнд на сваёй сядзібе.

Дзякуючы такім людзям, як Мар'ян Місевіч, беларуская нацыянальная ідэя не толькі не загіне, але будзе і надалей развівацца нягледзячы на ўсе перашкоды. Перашкоды, якія, як не дзіўна, чыняць не нейкія там акупанты з захаду або ўсходу, але прадстаўнікі незалежнай краіны, якая носіць назву Рэспубліка Беларусь.

### "Я вас помню, а вы ўспамяніце можа"

Гэтымі радочкамі з верша паэта Алеся Жыгунова названы другі відэатвор нашых журналістаў. Фільм, дарэчы, як і сам верш, прысвечаны нашаму славутаму земляку Язэпу Драздовічу.

"Вы пра мяне яшчэ згадаеце..." — казаў напрыканцы свайго жыцця беспрацоўны і бяздомны вандроўнікмастак Язэп Драздовіч. І яго словы спраўдзіліся праз некалькі дзесяцігоддзяў — яго сапраўды ўзгадалі. Бальшыня простых людзей, што ведалі яго асабіста, лічылі яго дзіваком. Адкуль жа простым сялянам было ведаць, што дзядзька Язэп таленавіты самародак – мастак, скульптар, разьбяр, пісьменнік, паэт, археолаг, фалькларыст, педагог, краязнаўца, гісторык, вандроўнік.

Дзякуючы намаганням мінскай мастацкай суполкі «Пагоня», якую ўзначальваў Алесь Марачкін, грамадскіх актывістаў з Германавіч Ады Райчонак і яе сына Міхася, значная частка спадчыны дзядзькі Язэпа сёння вярнулася з нябыту. Тым не менш, працы ў гэтым накірунку яшчэ шмат, і гэты фільм – маленькая цаглінка ў гэтай справе.

У фільме звяртаецца ўвага на тое, што 125-годдзе вялікага мастака, якое адзначалася ў мінулым годзе, прайшло вельмі сціпла. Гэтаму юбілею вельмі мала ўвагі ўдзяліла дзяржава, ды і незалежнае грамадства таксама аказалася не на вышыні. Тым не менш, грамадскія актывісты яго ўсё ж адзначылі, яны наведалі магілу Драздовіча, а потым сабраліся на сядзібе вышэйзгаданага Мар'яна Місевіча.

Таму варта пагадзіцца з аўтарамі фільма, што цікавасць да спадчыны Язэпа Драздовіча ў нашы дні павінна толькі расці.

### "Місія Божага пасланніка кс. Мечыслава Янчышына"

Трэці фільм быў прысвечаны дзейнасці ксяндза Мечыслава, які зараз з'яўляецца пробашчам глыбоцкай парафіі. Дзякуючы яго працы паўсталі касцёлы і капліцы ў Лепелі, Ушачах, Навалукомлі, Уле, Обалі, Шуміліне… Усяго і не пералічыш.

За савецкім часам у Беларусі д'ябальскі ваяўнічы атэізм зрабіў сваю агідную справу. Святыні разбураліся ці перайтвараліся ў склады, клубы і іншыя падсобныя памяшканні. Аб гэтым і сёння яскрава сведчыць помнік вандалізму ў вёсцы Селішча Вушацкага раёна. Вернікі знаходзіліся ў паўлегальным становішчы. Хрышчэнне, вянчанне і іншыя святыя сакрамэнты праводзіліся таемна, бо камуністычная ідэялогія не цярпела вакол сябе канкурэнцыі.

Гэты фільм пра місію ксяндза Мечыслава Янчышына, якога Бог чвэрць стагоддзя таму абраў сваім пасланнікам дзеля адраджэння Веры ў Беларусі, а менавіта ў нас на Віцебшчыне. У фільме расказваецца пра тыя цяжкасці, з якімі давялося сутыкнуцца святару падчас будоўлі касцёлаў у той частцы Віцебскай вобласці, якую мы называем усходняй.

Таксама распавядаецца пра тое, як дзякуючы намаганням ксяндза Мечыслава ў вёсцы Мікалаева на Шуміліншчыне паўстаў мемарыял бязвінна загінуўшым вязням турмы ў Беразвеччы, якіх энкэвэдзісты расстралялі 26 чэрвеня 1941 года. Як вядома, у савецкі час праўда пра гэты крывавы расстрэл старанна замоўчвалася. Не вельмі папулярная яна, на жаль, і зараз. Але пра такія падзеі варта памятаць, каб не паўтарыць іх у нашы дні.

З фільма гледачы даведаліся пра шмат якія невядомыя факты з біяграфіі ксяндза Мечыслава.

***

Фільмы выклікалі вялікаю цікавасць у гледачоў. Асабліва ім спадабаўся апошні фільм. Канечне, не ўсё ў гэтых працах дасканала, але гэта першыя працы нашых журналістаў. Спадзяюся, будуць і наступныя іх працы, якія будуць ацэненыя намі самым лепшым чынам. На гэты раз гледачы дужа не крытакавалі нашых аўтараў, станоўчых водгукаў было значна больш. А тыя заўвагі, якія былі выказаныя, Яўгенам і Леанідам будуць улічаныя ў наступных працах.

Наперадзе ў нашых аўтараў шмат новых задумак і спадзяёмся, што яны яшчэ парадуюць нас новымі фільмамі.

# Час прыспешвае нас жыць з дабрынёй і спагадай



■ **Людміла Ардынская,**
*в. Радзюкі, Шаркоўшчынскі р-н*

Квітнеючы травень завяршае прыгажэйшую пару года, якая ўзраджае, аднаўляе жыццё не толькі ў прыродзе, але і жыццёвыя сілы чалавека. Яна ўзнімае настрой і спрадвечнае імкненне ствараць: сеяць хлеб, саджаць сады, пісаць вершы, музыку, карціны.

Адцвіла чаромха, долу асыпаліся белыя пялёсткі вішань, не адвесці вачэй ад беларужовага квету яблынь. Зацвітае язмін і бэз. Набліжаецца дзень, калі ў школах для выпускнікоў празвініць апошні званок.

У наступным годзе споўніцца пяцьдзясят гадоў, як мае школьныя сябры, выпускнікі 11а класа СШ№2 выйшлі за сцены роднай школы. Школьная сцяжынка ўлілася ў вялікі шлях жыцця з больш сур'ёзнымі іспытамі і выпрабаваннямі лёсу. Лічу, што на чалавечую годнасць, вартасць жыцця, запатрабаванасць у грамадстве ўсе здалі іспыты на "выдатна".

Жыццё чалавека непрадказальнае. Мы не ведаем, што здарыцца з намі ў наступны дзень. Гэтай цудоўнай вясновай парой сышоў з жыцця мой аднакласнік Валерый Тарыкаў. Ён нездарма выбраў прафесію ўрача, каб дапамагаць людзям. З дзяцінства ён не мог з-за хваробы наведваць урокі фізкультуры, займацца спортам. Валерый любіў музыку, і ў старэйшых класах выконваў на школьнай сцэне эстрадныя песні сольна і ў дуэце з Алай Тарыкавай. Асабліва захапляўся песнямі Іосіфа Кабзона, які ў той час стаў папулярным. Песні "Жураўлёнак", "Стары клён" у яго выкананні мы і цяпер успамінаем пры сустрэчах. Жыццялюб і аптыміст, ён прадоўжыў жыццё дрэва свайго роду, пакінуў нашчадкаў, паслядоўнікаў сваёй справы. Некалькі гадоў прыкаваны цяжкай хваробай да ложка змагаўся за жыццё. Як урач, чым мог дапамагаў людзям нават у такім становішчы.

Час прыспешвае нас жыць з дабрынёй і спагадай у сэрцы і з памяццю аб тых, хто ішоў і ідзе з намі па жыцці. Я прысвячаю верш сваім школьным сябрам, бо паўтараю: час прыспешвае. Напісала на рускай мове, таму што ведаю: яго прачытаюць мае колішнія добрыя сяброўкі Тамара Далідутка ў Маскве, Люба Каралёва ў Прыбалтыцы, Іра Зырына на Паўночным Каўказе ў Расіі. Наш адрас быў тады: Савецкі Саюз. На жаль, мабыць, родная мова стала ўжо нязвыклай.




**На здымку:** група школьных сяброў у час сустрэчы ў жніўні 2013 г. у Глыбокім. (выпуск 1965 г., 11а кл. СШ №2, г. Глыбокае).

### Одноклассникам

*Выпускникам 11а СШ№2 1965 года*

Характеры такие непростые:
Тот грустен, молчалив, те – гордецы,
Серьёзные, смешливо-озорные.
И умники! Ну, просто молодцы!
На фотоснимке – день последний в школе,
Листвой зеленой майской сквер бует.
Взгляд каждого там радостно-весёлый,
Наполненный казался счастьем свет.
Вы в памяти– всё те же молодые,
Друзья давно прошедших школьных лет,
Красивые, теперь чуть-чуть седые,
Но грустно от того, что многих нет.
Вам жизни путь судьбой был предназначен,
И каждый нёс по тяжести свой крест.
Кому сопутствовал успех, кому – удача,
Кто в поезд сел, где нет свободных мест.
Рассудит Бог: был верным путь, неверным,
Сбивал ли ветар, смело шли вперед.
Чтоб не засохло жизни вашей древо,
Пустили ветви, продолжая род.
Пройдя свой путь, душой вы молодые,
И мудрости прибавила вам жизь.
Дороги ровные пусть будут, не крутые.
Не поддавайся, друг мой, старости, держись!

*Людмила Ардынская*

